Цана асобнага нумару 20 грошау.

# Сын Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 2 злотыя
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 31. Вільня, Нядзеля, 24-га жніўня 1924 г. Год I

## Праграма дзейнасьці.

У палітыцы ніхто нікому нічога дарма не дае. Усё трэба тым ці іншым спосабам *здабываць*.

Беларускае грамадзянства, якое доўгі час давала сябе баламуціць самаму заклятаму ворагу нашага народу, п. Пілсудскаму, хоць і позна, ды ўрэшце дужа добра гэта зразумела. І гэтае *прасьвятленьне* наіўных рамантыкаў, верыўшых крывадушным абяцанкам п. Пілсудскага, павяло беларускую палітыку па шляху, па якім так рашуча і без ваганьня йдзе нашае соймавае прадстаўніцтва.

Праўда, быў і ў нашых паслоў мамэнт, калі іх як-быццам падмануў па способу п. Пілсудскага былы прэм'ер генарал Сікорскі. Але гэты мамэнт быў дужа мімалётны, і п. Сікорскаму не ўдалося выкарыстаць сваей „дыпляматыі“. За тое палітычная лінія Беларускага Пасольскага Клюбу сталася йшчэ больш выразнай і рашучай.

Беларусы станулі на становішчы бязумоўнае апазіцыі. І тое, чаго ў працягу некалькіх гадоў не ўдавалася здабыць „дабром“, тое цяпер мы па крошцы атрымліваем, як вынік *змаганьня*.

Мы ўжо адзначалі, як нашу бязспрэчную перамогу, *прызнаньне ўрадам і Соймам беларускасьці Заходня-Беларускіх Зямель* у новых „языковых“ законах, хаця і ня ў поўным аб'ёме. Цяпер ізноў, як паведамляюць нашы карэспандэнты з розных ваколіц краю, польская адміністрацыя, бароўшаяся дагэтуль з беларускім друкаваным словам у кожнай яго пастаці, пашырае сама газэту ў беларускай мове („Грамадзкі Голас“), якая, ведама, праводзе ўрадовую палітыку. І, ня гледзячы на той яд, які газэта гэная стараецца ўліваць у душы нашага сялянства, абліваючы гразёй запраўдных байцоў за правы беларускага народу (перад усім — нашых паслоў!), — факт астаецца фактам, што беларускае друкаванае слова пашыраюць.... агенты і канфідэнты дэфэнзывы!

І гэта, як на нашы адносіны, так сама свайго роду „заваяваньне“....

Мы, аднак, не павінны ад гэтага супакоівацца і думаць: Ага! Ужо йдуць на уступкі!—Не, да уступак яшчэ дужа далёка. Тое, што робіць у нас у нацыянальнай справе ўлада, пакуль-што *больш карысна ей, чым нашаму народу*. Але тым больш стойкасьці павінны мы выявіць у нашай палітычнай працы, цьвёрда дамагаючыся поўнага здаваленьня нашых справядлівых нацыянальных, палітычных і сацыяльных дамаганьняў, абвешчаных нашымі выбранцамі з соймавае трыбуны. Тым цясьнейшай павінна быць сувязь народных масаў з паслямі, вёскі—з Беларускім Пасольскім Клюбам.

Аднак, гэта толькі адзін пункт у тэй праграме дзейнасьці, якую мы павінна вясьці. Каб голас народу, пераказываны нашыміпаслямі ў Сойме, меў вялікшую вагу, трэба, каб наша *ўнутраная арганізацыя была мацнейная і шырэйшая*. А перад усім мы павінны гуртаваць нашы сілы дзеля культурнае працы і эканамічнае і сацыяльнае самаарганізацыі.

Ізноў трэба *напружыць нашы сілы ў барацьбе за беларускую школу*. Ня хоча інспэктар даць урадовае беларускае школы, —

Радзе, каб вам дапамаглі. Не ўдаецца і гэтай дарогай дапяць свайго,—закладайце прыватную школу ў роднай мове і ўскладчыну аплачывайце вучыцеля. Разгоняць вам яе, — наймайце вучыцеля да хаты і вычыце дзетак групамі. Закладайце свае бібліатэкі-чытальні, выпісывайце хаўрусам кніжкі і газэты, арганізуйце свае хоры і драматычныя гурткі ці дружыны, каб ладзіць беларускія спэктаклі і т.п.

Так рабілі палякі пад панаваньнем царскае Расеі і, як бачым, ня толькі абараніліся ад вынішчэньня і дэнацыяналізацыі, але самі здалелі апалячыць многа беларускай і літоўскай моладзі...

Аб *легальнай* палітычнай арганізацыі тут казаць ня будзем: праца беларускіх партыяў, нават ксяндзоўскіх, усё роўна лічыцца „нелегальнай“. Затое ёсьць крыху магчымасьці легальна працаваць на грунце *самаарганізацыі эканамічнай і прафэсіянальнай*.

Ня будзем паўтараць усім вядомых доказаў патрэбы і карыснасьці *каапэрацыі*. Кожная каапэратыўная крама, кожная хаўрусная праца—ці то купля хаўрусам якое машыны, штучных гнаёў, насеньня і т. п., ці прадажа сваіх прадуктаў вялікшымі партыямі (хлеб, лён, яйкі, масла і т. п.),—гэта-ж усё спосабы аб'яднаньня нашых расьцярушаных сіл, гэта—школа грамадзкае працы. І не дарма польскія абшарнікі, разумеючы ўсю вагу такіх чыста сялянскіх, „мужыцкіх“ арганізацыяў, стараюцца нашыя лепшыя вясковыя сілы ўцягіваць у свае „Kółka rolnicze“ і т. п....

Побач з гэтым трэба паставіць працу па *арганізацыі нашых работніцкіх* сіл на грунце тварэньня *прафэсіянальных саюзаў*,— ведама, не ксяндзоўскіх, не „хрысьціянскіх“, якія стараюцца зацямніць нашу сацыяльную сьвядомасьць, распаліваючы нацыянальную і рэлігійную барацьбу між работнікамі,— а саюзаў клясавых, злучаючых работнікаў кожнае спэцыяльнасьці бяз розьніцы веры і нацыянальнасьці. Толькі ў такіх саюзах мы не затрацім ні сваей мовы, ні сваей нацыянальнасьці, бо ў іх няма месца на ўнутраную нацыянальную ці рэлігійную барацьбу. Затое ў іх мы можам узгадовываць ідэйных працаўнікоў, якія панясуць у сваіх крэпкіх руках наш штандар ня толькі ў „цёмную“ вёску, але і ў вялікія культурныя цэнтры—месты.

Вось тыя спосабы грамадзкае самадзейнасьці, якія для нас у Заходняй Беларусі йшчэ *ня зусім зачынены*. Вось той шлях, які павінен дапоўніць нашае палітычнае змаганьне, даючы яму моцную, непарушную і нязьнішчальную ні пры якіх абставінах падставу.

---

### „Украінска-беларуская правакацыя“.

Пад гэткім загалоўкам польскія газэты зьмясьцілі тэлеграму аб тым, быццам украінскія і беларускія пасды маюць перад сэсіяй Сойму зрабіць зьезд у Пінску, на якім быццам маняцца дэманстрацыйна зрачыся мандатаў і абвясьціць „утварэньне асобнага украінска-беларускага Сойму“...

Зьезд мае быццам зрабіць гэтую дэманстрацыю перад усім сьветам якраз у часе кангрэсу Лігі Народаў.

Трудна зразумець — ці гэтыя паны, якія выдумываюць гэткія „качкі“, больш хацелі-б пазбыцца нашых паслоў з Сойму, ці — наадварот — больш баяцца магчымасьці падобнай дэманстрацыі?!

---

## „Сваі“...

У віленскім „Слове“ надрукаваны вельмі цікавы артыкул, падпісаны літэрай J. (ініцыял агульна знанага віленскага літэратара-краёўца) пад загалоўкам „Замах на Закрэт“.

Зьмест артыкулу—у тым, што вайсковая ўлада ў Вільні выбрала Закрэтны лес пад будаваньне новых складаў ваеннай амуніцыі замест старых, ужо нягодных і зашмат блізкіх да места.

А ведама, што цяпер, у нашыя „пацыфістскія“ часы, амуніцыя наагул, а асабліва ў навапаўстаўшых дзяржавах балтыцка-чорнаморскага „бар'еру“, ня любіць ляжаць спакойна!

„Закрэт, піша аўтар, гэта — цудоўны абшар для гуляньня. Гэта-ж — аграмадны сталетні лес, які ляжыць тут-жа, амаль ня ў самым месьце, абхопліваючы места зялёным паўкругам, разам з Вяльлёй, якая тут робіць вялікі заварот—„Zakręt“.

„Гэты ўвесь лес адкрыты для ўсяго насяленьня Вільні, якое ўлетку, вясной і восеняй шукае тут гэтак патрэбнага для мястовых лёгкіх здаровага паветра, шукае ўмацаваньня змучаных нэрваў, шукае дабрачыннай прагулкі і разрыўкі...

„Ніводнае места ў Польшчы ня мае тут-жа, ля самых сваіх варотаў—гэткага рэзэрвуару здароўя, асьвяжэньня і ніколі нявычарпаных уражэньняў ад гэтае блізкасьці цудоўнае прыроды“.

„І вось „racja wojskowa“ кажа перарэзаць гэты цудоўны парк нашага места шырокім пасам вываpачаных каранямі ўверх — вялізарных сосен, закладывае ў ім бэтонныя фундамэнты для складаў амуніцыі“... Што-ж гэта значыць? пытаецца аўтар.—„Гэта значыць, што — ўвесь гэты лес мае быць засаджаны гэтымі складамі... Гэта значыць, што—дзеля гэтага цяпер ужо высячана некалькі сотняў самых лепшых, вялізарнейшых сосен, якіх ня шмат асталося можа і ўва ўсей Польшчы... Гэта значыць, што засуджаны на пагібель адзін з найдаражэйшых для віленцаў мястовых вугалкоў, якімі Вільня можа гардзіцца перад усім сьветам!“

Віленскі Унівэрсытэт, уласнасьцю якога цяпер зьяўляецца Закрэт, падаў энэргічны пратэст ваеннаму міністру, скардзючыся на мясцовую ваенную ўладу, якая *без яго згоды* (*вось яна — Канстытуцыя*!!) *гаспадарыць у яго ўласнасьці*. Але дагэтуль ніякага адказу няма. А пакуль што ўлада робіць сваё — *сячэ хараство і здароўе нашае Вільні*!..

„Яны сякуць і валяць дрэвы, звозяць пясок і каменьне, будуюць баракі. Што ім да ўсяго гэтага?! Што для іх Вільня?! — баявы пляц — teren operacyjny—ня больш“...

Аўтар кажа, што, калі таму самаму важнаму генаралу, ад якога залежыць цяпер лёс Закрэту, зьвярнулі ўвагу на тое, што ўся віленская прэса пратэстуе проці варварскага спусташэньня, — ён зусім спакойна адказаў: „Я ня чытаю гэтага“...

І вось гэтаму „ня чытаючаму“ польскаму генаралу польскі-ж публіцыст, — віленскі краёвец, зусім слушна, з забойчым, хаця і стрымліваным, абурэньнем адказывае:

„Не зарызыкавалі зьніштажаць Закрэт маскалі. Не адважыліся падняць на яго руку немцы. Не спрабавалі нават бальшавікі. Але вось — прыйшлі **СВАІ**.... і бураць тое, што ўзгадавалі тутака вякі“...

Добры, трафны адказ, які йдзе ў сваей забойчасьці мо' далей, чым таго хоча сам п. J....

„Ці-ж запраўды іншага месца, як Закрэт, ня можна было знайсьці пад гэтыя склады?“—слушна абураецца п. J., кажучы, што „няможна запраўды знайсьці даволі моцных слоў, каб заклеймiць самавольную безцарамоннасьць нашае ваеннае ўлады“.

П. J. пацяшаецца і пацяшае другіх тым, што гэтыя склады будуюцца і будуць напоўнены... *толькі ў часе вайны*, але „у спакойныя часы“ яны будуць пуставаць.

Добрае пацяшэньне!..

— — — — — — — — — — — —

3—4 гады назад, у самы разгар вялікага спору аб Вільню, аўтар гэтых радкоў у другім месцы і ў іншай мове, але ў тэй самай Вільні, пісаў, што ў канцы канцоў *Вільню атрымае той з яе „жаніхоў“, хто яе больш за ўсіх любіць*.

Але-ж вось польскі публіцыст п. J., які належыць да тых вельмі і вельмі нямногіх, што за-

праўды могуць прадстаўляць сэрца, розум і сумленьне Вільні, зусім выразна кажа аб сучасным, так сказаць „законным мужу“, ці валадару Вільні:

„Што для іх Вільня?!—ваенная база,—нічога больш!... Яны прышлі сюды—бурыць і зьніштажаць усё тое, што ўзрасьцілі і ўзгадавалі тут вякі,—тое, што ўшанавалі тут нават расейцы, нават немцы, нават бальшавікі!“...

Ушанавалі—„чужыя“. зьніштажаць—„сваі“..

Дзіўна—сымвалічна разьвіваецца гісторыя ці „асабісты раман“ нашае красуні Вільні.... **С.**

# Жыды і зямля.

Тыя варункі, ў якіх жыло ў нас жыдоўскае насяленьне ў працягу сталецьцяў, асабліва-ж у часы панаваньня самадзяржаўнае Расеі, зусім зачынілі жыдом доступ да некаторых галін працы, а перадусім да працы на ральлі. Гэта і вытварыла ў нас асаблівы тып жыдоў—пераважна дробных гандляроў і толькі часьцю занятых фізычнай працай—у рамёслах, на фабрыках.

Жыды былі замкнёны ў губэрнях гэтак званай „аседласьці“. Але і ў гэтых губэрнях яны ня мелі права жыць па за мястэчкамі і гарадамі. Яны не дапускаліся да працы ў дзяржаўных прадпрыёмствах, на чыгунках і ў горнай прамысловасьці. Яны не маглі ўладаць зямлёй і нават асядаць у сельскіх мясцовасьцях. Яны мелі доступ толькі да рамёслаў і гандлю. Рэвалюцыйная барацьба жыдоўскіх рабочых выклікала яшчэ болей жорсткае прасьледаваньне з боку царскага ўраду. Пазбаўленае права вольнага руху ў шуканьнях кавалка хлеба, жыдоўскае працоўнае насяленьне гуртавалася ўсё болей і болей у мястэчках і гарадох і ў масе сваей усё болей бяднела з увагі на нязвычайна вострую канкурэнцыю.

Ужо задоўга да сусьветнае вайны сярод нашых жыдоў робяцца спробы асесьці на зямлі. Істнаваў цэлы рад жыдоўскіх гаспадарак тыпу сялянскіх хутароў, якімі апекавалася адумыснае жыдоўскае таварыства. Але ўсё гэта былі толькі паадзінокія спробы.

Цяпер у ССРР сацыяльныя варункі так укладаюцца, што для дробнага гандляра і самастойнага рамесьніка мо' ўжо ў хуткім часе не акажацца месца: іх выціскае радавая арганізацыя гандлю і ўзрост каапэрацыі. Дык пытаньне аб асяданьні жыдоў на зямлі і пераход іх да зямляробства пачынае станавіцца ўсё больш актуальнай справай. У Радавай Беларусі ў 1923 годзе было 170 жыдоўскіх гаспадарак з 18.000 дзесяцін і 18.000 едакоў. Сёлета абшар зямлі, на якой працуюць хлебаробы-жыды, павялічыўся да 20.000 дзес. і гэтак-жа ўзрасла лічба едакоў.

Паводле заявы ЦВК Радавае Беларусі, сярод жыдоўскіх масаў выяўляецца ўсё болей і болей узрастаючая цяга да зямлі. Практыка жыдоўскіх сельска-гаспадарчых калёній і калектываў на Украіне, у РСФСР і ў самой Беларусі паказала, што жыдоўскае насяленьне здольна да працы на зямлі, лёгка праводзіць формы калектыўнага землякарыстаньня і палепшаныя спосабы вядзеньня гаспадаркі. На Ўсесаюзнай С.-Г. Выстаўцы жыдоўскі павільён прыцягнуў да сябе агульную ўвагу і атрымаў пахвальны одзыў.

Як ні абмежаваны вольны зямельны фонд Беларусі, прэзыдыум ЦВК прызнаў, што на гэты фонд, поруч з мясцовым зямляробным насяленьнем, маюць права і тыя, каму абмяжоўваючыя законы царскага ўраду зачынілі доступ да зямлі, і хто цяпер, калі згінула рабства і бяспраўе, імкнецца перайсьці да працы на зямлі.

У зьвязку з гэтым прэзыдыум ЦВК пастанавіў:

1) Пры падзеле запаснога зямельнага фонду, які выяўляецца пры правядзеньні працы па зямлябудаўніцтву і мэліарацыі і за кошт быўшых лясных плошчаў, зачічаць і заяўкі жыдоў—адзінак і калектываў, хоць бы яны да гэтага часу не працавалі на зямлі, і здавальняць іх на аднальковых правох **з мясцовым насяленьнем**, якое працуе на зямлі.

**Увага:** Сав. Нар. Каміс. даручаецца пераглядзець інструкці Нар. Каміс. Зямляробства аб падзеле зямлі і ўнесьці ў іх патрэбныя дадаткі і зьмены.

2) Для нагляду за правядзеньнем у жыцьцё п. 1 і для адшуканьня магчымасьцяў да зямлябудаўніцтва працоўных жыдоў у Б.С.Р.Р.—стварыць пры прэзыдыуме ЦВК, БСРР асобную камісію па зямлябудаўніцтву працоўных жыдоў, якой даручыць высьвятленьне магчымых разьмераў надзелу мясцовага жыдоўскага насяленьня зямлёй у межах БСРР, а таксама адшуканьне сродкаў у дадатак да тых, якія ўжо адпускаюцца на гэта па дзярж. бюдж.

3) Зважаючы, што ўрадовымі органамі іншых саюзных і аўтаномных рэспублік (Украіна, Крым) ужо прыняты рашэньні аб выдзеле вольных земляў дзеля одпуску іх жыдам, якія хочуць займацца зямляробствам, даручыць камісіі падрыхтаваць сувязь з аналягічнымі ёй органамі дзеля згаджэньня пляну працы і ўзаемнай дапамогі, а таксама для арганізацыі перасяленьня жыдоў на вольныя землі саюзных і аўтаномных рэспублік.

4) Прадаставіць камісіі права ўваходзіць у зносіны з мясцовымі і зарубежнымі грамадзкімі арганізацыямі дзеля адшуканьня сродкаў па зямлябудаўніцтву жыдоў (мэліарацыйная і будаўнічая праца, крэдытная дапамога і інш.).

5) Камісію зацьвердзіць у складзе: старшыня — Ігнатоўскі, сэкратар — Бэйнфэст, сябры -- Ашаровіч і Гэльтман.

Спроба арганізацыі жыдоўскае хлебаробнае працы на ральлі ў шырэйшым аб'ёме—вельмі цікаўная. Гэта для жыдоўскае нацыянальнае псыхалёгіі, так аднабока разьвіваўшайся ў працягу сталецьцяў, дужа важны экспэрымэнт, ад вынікаў якога можа аказацца залежнай уся будучына жыдоўскага насяленьня на землях Беларусі і суседзяў. **К. Фалькевіч.**

# З газэт.

**Справа бясьпечнасьці звонку.**

„Gaz. Warsz.“ ў перадавіцы № 229 паважна разважае ўтварыўшаеся міжнародавае палітычнае палажэньне і робіць вывад, што для Польшчы яно вельмі небясьпечнае.

> Лёнданская Канфэрэнцыя адмяніла палітычнае аблічча Эўропы. Ад часу замірэньня ў лістападзе 1918 году да адкрыцьця Лёнданскае Канфэрэнцыі галоўным ключом палітычнага палажэньня ў Эўропе было выразнае імкненьне Францыі да ўгрунтаваньня сваей переваґі на контынэнце.
>
> Бясьпечнась Францыі і саюзных з ёй дзяржаў апіралася на прынцыпе пасьледавальнае абароны Вэрсальскага Трактату дарогай *санкцыяў і ваеннае гатоўнасьці.*

Цяпер Францыя выраклася гэтае палітыкі, так энэргічна ведзенае ліхое памяці п. Пуанкарэ. А рэзультат гэтага—тое, што

> ў гэты мамэнт трэба лічыцца з тым, што, калі лёнданская ўмова будзе аканчальна падпісана, дык і для Польшчы, як блізкае саюзьніцы Францыі, зьменяцца падставы справы бясьпечнасьці.

Зьменяцца яны, бязспрэчна, ня толькі для Францыі, якая займае найбагацейшую краіну Нямеччыны, ня толькі для Польшчы, якая мае спор аб землі суседзяў на Захадзе і Усходзе, але і для апошняга сябра гэтае тройкі — Румыніі, якая займае Бэссарабію і мае спор аб яе з ССРР. Якую ж дарогу намячае „Gaz Warsz.“ для новае польскае палітыкі? Мо' зблізэньне і згоду з Нямеччынай і ССРР, з якімі Польшча гранічыць блізу на ўсім працягу сваіх дзяржаўных межаў?

Нічога падобнага!

„Gar. Warsz.“ радзіць ісьці па сьлядох... Францыі, ад якое Польшча і Румынія розьняцца сваім бязсільлем супрацівіцца дужэйшым суседзям аружнай сілай, калі Францыя не баіцца нападу Нямеччыны, бо йшчэ сяньня можа яе перамагчы. „Gaz. Warsz.“ радзіць такжа... шукаць для Польшчы забясьпечаньня ў Лізе Народаў, якую яшчэ так нядаўна аплёвывала, як „жыдоўска-масонскую выдумку“.

Але палітыка Польшчы зрабіла тое, што ў Лізе Народаў ей трудна знайсьці прыяцеляў і абаронцаў...

**Польская прэса аб нашай паліцыі.**

Газэта абшарнікаў „Słowo“ зварачае асаблівую ўвагу на „недамаганьні паліцыі“: каму, як каму, але для абшарнікаў абарона паліцыі вельмі патрэбна.... Вось-жа „Słowo“ ў № 188 піша аб гэтых „недамаганьнях“ гэтак:

> Скандальная справа бандытызму ....у нетрах крэсавае паліцыі, справа Котарбіньскага, Кані і хаўрузіі зрабіла вялізарнае ўражэньне на крэсавае насяленьне. Трэба адкрыта сказаць: яна крэпка падарвала *прэстіж* нашых органаў бясьпечнасьці на Крэсах.

І нават самі абшарнікі пратэстуюць проці таго, што на нашы „Крэсы“ шлюць, як у ссылку, „праштрафіўшыхся“ ў Польшчы паліцэйскіх і ўрадоўцаў. Нейкі п. А. Чапліньскі піша ў тым-жа органе:

> „Пагляд, што Крэсы зьяўляюцца найбольш аднаведным месцам дзеля папраўчых калёніяў для дысцыплінарна правініўшыхся дзяржаўных агентаў, асабліва-ж для паліцыі, і прысыланьне на розныя становішчы людзей нятутэйшых, а ў дадатку з благой славай, — лічу за галоўную абмылку. Бо што зьвязуе гэтага чалавека з месцам, дзе ён пачуваецца зусім чужым? Лічучы месца сваей новай службы, назначанае яму за кару, тымчасовым, — не прыдае вялікае вагі тэй славе, якую можа тут заслужыць сваім дастойным кары паступаньнем. Невядомы для нікога з мясцовага насяленьня, ён мае вялізарнае палягчэньне дзеля найгоршых учынкаў“.

Аўтар робіць з гэтага вывад, што

> „абарона Крэсаў павінна быць аддадзена мяйсцовым людзям, і толькі такіх людзей трэба набіраць у гранічную паліцыю“.

Але і гэта не ратуе палажэньня з прычыны агульнае пастаноўкі справы камплектаваньня ў нас паліцыі, і аўтар канчае сваё пісьмо такім дамаганьнем:

> „Лішне вялікая ўвага зварачаецца на вонкавы выгляд паліцэйскіх агентаў, а лішне мала або і зусім не зварачаецца на іх кваліфікацыі маральнага характару“.

Вось-жа тут-то і ўся бяда—і ня толькі ў адносінах да паліцыянтаў, якім узьдзелі на рукі—не заўсёды чыстыя!—скураныя рукавіцы і думаюць, што гэта іх ачысьціць....

# Палітычныя падзеі.

**Новы канфлікт на Г. Сьлёнску.**

Як падаюць польскія газэты, прамыслоўцы на Горным Сьлёнску ізноў выступілі проці работнікаў, дамагаючыся далейшага павялічэньня дня працы ў суботы (на 2 гадзіны) і памяншэньня на 10 проц. платы. Работнікі адкінулі гэтыя дамаганьні і з свайго боку патрэбавалі павялічэньня платы на 10 проц. з увагі на дарагоўлю. Адбыліся перагаворы прадстаўнікоў абедзьвюх старон, але да паразуменьня не дайшло.

# „COR ARDENS“.

**К. Сваяк. „Мая Ліра“.** Беларускае Выдавецкае Таварыства. Вільня—1924 г.

(Глядзі № № 27, 28, 29 і 30 „Сына Беларуса“).

III.

> З прычыны таго, што за падачу у гэтай стацьці адрыўкаў вершаў Сваяка з *легальна* выданага у Вільні ягонага зборніку „Мая Ліра“ Камісар Ураду двойчы сканфіскаваў нашу газэту, — мы прымушаны скараціць цэнны агляд гэтага зборніку грам. Сулімай, адмовіўшыся ад ілюстраваньня яго прыкладамі творчасьці Сваяка...
>
> *Рэдакцыя.*

Трэці аддзел „Ліры“ Сваяка ахвяраваны вельмі драматычнай барацьбе ў яго душы „Эроса Нябеснага“ з Эросам зямным.

Паэт — „служэбнік Бога“ — з вялікім болем *адмаўляецца* ад зямнога каханьня, ад „чараў дзяўчыны“. Але гэтая адмова — з страху перад „карай Бога і людзей“—вельмі дорага абходзіцца паэту...—І ўвесь чацьверты аддзел — у цэлым радзе вельмі моцных вершаў — рысуе нам тое *запраўдна-несьмяротнае жыцьцё*, якое вядзе Сваяк *пасьля гэтай адмовы ад жывое Любві да Зямлі—ў яе найпякнейшым тварэньні...*

Павольнае, жудаснае *ўміраньне*—вось лёс, які сам выбраў сабе Сваяк, адмовіўшыся ад жывога Хараства Зямлі.

Вельмі цікава, што — ў сваей вялікай шчырасьці паэта—Сваяк ня ўкрывае, што ў гэтым жудасным кананьні яму *не памагае нават тое самае Неба, дзеля якога ён адрокся ад Зямлі...*

Як раз наадварот: гэтае Неба тады *і адвярнулася ад яго зусім, калі ён здрадзіў Зямлю...* — Душа яго змадзела да рэшты. — „Узьлёт яе да Неба быццам хто скаваў“... „Мадзее і вера, і агонь і любоў“... „Малюся да Бога, хоць Ён тут бязсільны“... „Згубіў я здароўе і волю і мэту“... — Адно асталася: „спачыць у магіле“... Так скардзіцца бязсільны, малаверны, сам сябе пакрыўдзіўшы Сваяк...

> „Адзін быў заўсёды—было мне нявольна
> „Пазнаці любові ціхога дзіцяці“...

Так ён сам высьвятляе сабе і людзям прычыну сваей пагібелі.

---

Аддзел пяты—мешаніна розных твораў: арыгінальных і перакладаў. Гэты аддзел *не дае аканчальнага сынтэзу*, ані выхаду з душэўнай драмы Сваяка, чыста сярэднявечнай драмы—знамянітага некалі „спору Неба і Зямлі“, — „спрэчкі душы з целам“...

Тут ёсьць асобныя элемэнты сынтэзу і выхаду з блуднага і манлівага „Сярэднявечча“ — праз рэвалюцыйны „Рэнэсанс“, у *Новую Гісторыю, у Новае Жыцьцё* — праз *Працу...* Есьць асобныя штрыхі сьветлага абраза Будучыны. Але далейшай яснай дарогі самога паэта ў кніжцы яго няма.

---

Паэзія Сваяка — вельмі характэрная праява нашага заходня-беларускага жыцьця, пастаўленага паміж польска-каталіцкім „Сярэднявеччам“ і магутнымі ўплывамі ўсходня-расейскага „Рэнэсансу“. Спроба даць нейкі сынтэз абодвух гэтых сьмяротна-варожых сьветапаглядаў—аказалася невыканальнай. Ці гэта—дзеля сутнасьці праблемы, ці—дзеля слабасьці сілаў Сваяка, мы аб гэтым тутака казаць ня будзем.

У кожным разе трэба прызнаць вялікую шчырасьць паэта ў драматычных перажываньнях тэй барацьбы, якая адбываецца ў яго душы паміж гэтымі—Захадам і Усходам... Сонца!

**Суліма.**

Разам з тым работнікі катэгарычна трэбуюць, каб прамыслоўцы перасталі выкідаць работнікаў без дай прычыны.

### Безрабоцьце ў Лодзі.

У Лодзі зарэгістраваны аж 24.000 безработных, якіх павінен карміць урад.

### Фэдак на волі.

Ведамы спраўца замаху у Львове на б. Начальніка Паньства Пілсудскага, украінец Фэдак, адбыўшы кару, скарочаную падыйшоўшай амністыяй, выпушчаны на волю і паехаў у Бэрлін.

### Аб бясьпечнасьці „Крэсаў“.

19 жніўня ў Наваградку пад старшынствам ваяводы Рачкевіча адбыўся зьезд старостаў, на які прыехалі такжа: заступнік ген. Рыдз-Сьміглага, ген. Рыбак, віцэ-дыр. дэпартаманту бясьпечнасьці п. Яшчолт і галоўны камэндант дзярж. паліцыі, п. Божэнцкі.

На зьезьдзе, як падае ПАТ, „быў прыняты рад пастановаў дзеля запэўненьня бясьпечнасьці, абароны граніц і адпору дывэрсыйным бандам“.

### Дарагоўля.

Нямецкі статыстычны ўрад сцьвердзіў, што дарагоўля ў Нямеччыне павялічылася, раўнуючы з даваеннымі часамі, толькі на 0,14 процантаў. Тым часам у Польшчы, напрыклад, звычайны пэркаль, шмат горш за марозаўскі, каштуе ў 6—8 разоў даражэй, як давайны.

За ліпень дарагоўля ў Варшаве ўзрасла на 1,7 процантаў.

### У справе Украінскага Унівэрсытэту.

Палякі сьпешна падгатаўляюцца да таго, каб можна было не з пустымі рукамі паехаць да Лігі Народаў. У Львове сьпешна вядуцца перагаворы з украінскім праф. Смаль-Стоцкім, каб чым хутчэй адкрыць Украінскі Унівэрсытэт. Унівэрсытэт мае быць або ў Львове, як трэбуюць украінцы, або ў Станіслававе, як хацелі-б палякі.

Але пакуль што — створаныя ўжо два факультэты будуць зьмяшчацца ў гмаху Кракаўскага Унівэрсытэту...

### Ізноў зьмена пашпартных аплат.

Урад праяктуе ізноў зьмяніць аплату за загранічныя пашпарты. Заместа „нармальных“=500 злотых і „льготных“=20 мае быць нейкая сярэдняя лічба, бо шмат было надужыцьцяў з боку ўрадоўцаў.

### Кангрэс Лігі Народаў.

Першае паседжаньне Агульнага Сабраньня Лігі Народаў адбудзецца 1 верасьня.

### Рэарганізацыя Лігі Народаў.

Мак-Дональд апрацаваў свой плян рэарганізацыі Лігі Народаў і маніцца асабіста бараніць яго на блізкайшым кангрэсе.

Паводле думкі Мак-Дональда, Ліга павінна стацца запраўдным судом для народаў, які меў-бы і маральную і матар'яльную сілу дзеля выкананьня сваіх прысудаў.

### Незалежніцкі рух у Харватыі.

Вярнуўшыся да краю правадыр харвацкіх незалежнікаў, Радіч, горача ўзяўся за прапаганду ідэі незалежнай Харватыі і агітацыю сярод шырокіх масаў насяленьня, асабіста аб'яжджаючы край. Перасьцерагаючы харвацкі народ перад ненавісьцяў да сэрбскага народу, Радіч разам з харвацкім пытаньнем падымае і справу чорнагорцаў і македонцаў, якіх таксама, карыстаючыся францускай помачай, задушыў сэрбскі імпэрыялістычны ўрад толькі што скінутага Пашыча.

Як ведама, сучасны сэрбскі ўрад дэмакрата Давідовіча знаходзіцца ў парляманцкай залежнасьці ад групы Радіча, дык, ня гледзячы на абурэньне сэрбскіх нацыяналістаў, ня робіць ніякіх перашкодаў у працы Радіча. Але сэрбская прэса ўжо пачала страшэнную кампанію проці ўраду, даводзячы, што сам урад разам з Радічам рыхтуе „замах“ на існуючы лад у паразуменьні з ворагамі краю — немцамі, вэнграмі і г. д. Урэшце пушчана чутка, быццам для „ратаваньня дзяржавы“ палгатаўляецца (тым жа Пашычам, разам з каралём!) ваенная дыктатура.

У кожным разе на Балканах, як і заўсёды было, тлее ізноў цыгарка ў парахоўні!

### „Рэвалюцыя ў Баўгарыі“.

„Gazeta Poranna“ падае вельмі сэнсацыйныя (калі не фальшывыя) весткі аб ладжанай у Баўгарыі камуністычнай рэвалюцыі, быццам арганізаванай з Масквы. Баўгарскі ўрад быццам зьвярнуўся да Румынскага і Югаслаўскага ўрадаў з просьбай аб дапамозе і з прапазіцыяй утварэньня „адзінага фронту“ для барацьбы з камунізмам. Але тыя адмовіліся, абяцаўшы заместа гэтага... прыслаць у часе разрухаў у Баўгарыі да яе сваі ваенныя атрады.

Як ведама, баўгарскія камуністы—пераважна сяляне і належаць да так званага „Зялёнага Інтэрнацыяналу“.

### Ізноў крывавая бойня ў Арабіі.

Толькі што англійскі гарнізон у Судане пазабіваў колькі дзесяткаў ягіпецкіх жаўнераў незалежнікаў. А вось цяпер падаюць вестку аб тым, што ў Палестыне выбухнула мясцовае паўстаньне арабаў, якое задушыў атрад англійскіх бранявікоў, прычым забіты ўжо больш як шэсьць сотняў арабаў.

### Англія і Судан.

Пасьля крывавай расправы англійскіх жаўнераў з суданскімі войскамі ягіпецкі ўрад, які лічыць, ня гледзячы на англійскую акупацыю, Судан часткай Ягіпту, паслаў вельмі гарачую ноту пратэсту англійскаму ўраду, трэбуючы вывясьці з краю забіваючыя мірнае насяленьне англійскія войскі.

На гэтую ноту ўрад п. Мак-Дональда адказаў, што Англія лічыць сябе адказнай за падтрыманьне спакою і бясьпечнасьці (!!) ў Судане і дзеля таго... пастанавіла павялічыць англійскія войскі ў Судане!

### Паўстаньне ў Індыі.

Францускія газэты падаюць, што ў Індыі ў розных месцах узьняліся паўстаньні проці англійскае ўлады. Паўстаньні тушацца з зьвярынай жорсткасьцю. Сотні жыхароў забіты на сьмерць.

### Паўстаньне ў Афганістане.

Паўстанцамі пад начальствам Абу-хана ўзяты Кабул. Урадавыя войскі страцілі 300 забітымі, шмат раненых і вельмі многа вярблюдаў і амуніцыі.

### Забарона тытуну ў Амэрыцы.

Забараніўшы ў сябе, ці лепш, значна абмяжаваўшы ўжываньне гарэлкі, Амэрыка пачынае новую, можа яшчэ шмат цяжэйшую барацьбу з другім шкоднікам чалавечага мозгу—тытуном. Стаўшыся „сухой“, гэта значыць—цьвярозай, Амэрыка хоча стацца яшчэ і „бяздымнай“.

## Пасьля Лёнданскай Канфэрэнцыі.

### Да справы акупацыі Руры.

Нямецкі канцлер Маркс запрапанаваў урадам, акупаваўшым нямецкія тэрыторыі, каб дзеля помачы іх прадстаўніком і пасрэдніцтва ў зносінах з насяленьнем быў вызначаны асобны нямецкі камісар на ўвесь акупаваны абшар.

### Нацыяналісты не баяцца роспуску Рэйхстагу.

Пагроза Маркса распусьціць Рэйхстаг, калі ўрад не атрымае патрэбнай для ратыфікацыі лёнданскае ўмовы большасьці $^2/_3$ галасоў, ня спудзіла нацыяналістаў. Яны заявілі, што вельмі ахвотна пойдуць на новыя выбары, ведаючы добра, што іх выбарны лёзунг: „далоў плян Доўса!“—дасьць ім яшчэ больш галасоў, як яны атрымалі цяпер.

### Маркс мае ўжо большасьць?

Урад Маркса мае пакуль што пэўных толькі 270 галасоў. Баварскія людоўцы і партыі „гаспадарчай еднасьці“ яшчэ вядуць нарады. Урад разьлічае на расколу нацыяналістаў. Тады можа патрэбная большасьць і склеіцца.

### Ці моцна стаіць Эрыо?

Нямецкая прэса кажа, што ліст Мак-Дональда зрабіў вялікае і сумнае ўражэньне у Францыі. З яго быццам відаць, што Мак-Дональд, хаця і згадзіўся на францускі ультыматум у Лёндане, але можа ў кожны мамэнт патрэбаваць ад Францыі ачышчэньня Руры.

Гэты ліст зрабіў тое, што становішча Эрыо сталася нямоцным. Але, кажуць газэты, калі-б упаў Эрыо, дык зваліўся-б разам і Мак-Дональд. Дык абодва храмыя, кульгаючы ў розныя бакі, неяк падтрымоўваюць адзін аднаго.

---

## ХРОНІКА.

**Новы палітычны працэс.** Пракуратура ўжо аддала акт абвінавачаньня грамадзянам Сярэбранікаву Арсеню, Каралёнку Міхалу, Чарняўскаму Аляксею, Семашкевічу Яну, Арленкевічу Балеславу, Нарушэвічу Мікалаю, Сароцы Мікалаю, Скабею Уладзімеру, Гардзею Васілю сыну Апанаса і Гардзею Васілю сыну Яна.

Усіх вінавацяць у тым, што яны зрабілі змову проці цэласьці Польскае дзяржавы, манючыся адарваць належачую да Польшчы Заходнюю Беларусь, злучыць яе з Усходняй Беларусяй, што пад Радавай Расеяй, і утварыць незалежную Беларускую дзяржаву (—арт. 51 і 102, ч. 1 Карнага Кодэксу).

Судзіць іх будзе Акружны Суд у Вільні.

**Ізноў арышт вучня!** Нядаўна мы паведамлялі аб арышце ў Вільні паліцыяй вучня 5 клясы Беларускае Гімназіі, Барыса Кавэрды. А 1 гадзіне ўначы з 21 на 22 гэтага жніўня адбыўся вобыск у кватэры 16-гадовага Усевалада Сурагі, вучня V кл. Віленск. Белар. Гімназіі. Прычыны вобыску невядомы. Двое паліцыянтаў і выявдовец дэталічна ўсё ператрасьлі і, напісаўшы пратакол, які ўстанаўляў, што нічога кампрамітуючага ў Сурагі ня знойдзена, усё-ж такі забралі з сабой гэтага нялетняга хлапца пад незмаўканы плач яго хваравітай маткі—і шум бушаваўшай у гэту ноч буры.

Аб 11 гадз. раніцы 22.VIII вучань Ус. Сурага пасьля паліцэйскага допросу яго на Дамініканскай вуліцы быў зволынены з-пад арышту.

Сьмешным, запраўды, выдаецца нам, што ўлада пачынае дашуківацца „крамолы“ сярод беларусаў пры дапамозе вобыскаў і арыштаў нялетніх вучняў.

Добрую школу праходзяць нашы школьнікі— ў паліцэйскіх арыштах!

**Нялетні вучань зволынены з вастрогу.** Увечары 21. VIII зволынены з Лукішскага вастрогу пад залог усяе маемасьці сваіх бацькоў вучань IV кл. Віл. Бел. Гімн. Салагуб Аляксей, які быў заарыштаваны ў ноч на 1 мая ў в. Зарудзічы, Беніцкае воласьці, Ашмянскага павету, ў часе пабыту там у сваіх бацькоў на Вялікодных школьных вакацыях.

**Арышты ў Дзісьненшчыне.** На тым тыдні заарыштаваны вучні VII кл. Віленскай Беларускай Гімназіі Бабровіч Лявон і Янэль Кузьма. Заарыштаваны яны ў Дзісьненскім павеце, дзе праводзілі лета ў сваіх бацькоў. Прычыны арышту невядомы.

**Арышты ў Горадні.** У суботу 16 гэтага жніўня ўвечары горадзенская паліцыя акружыла на Замковым завулку дом, дзе зьмяшчаецца рабочая кухня. Усе прысутныя ў гэты час там работнікі былі паліцыянтамі перапісаны і з іх лічбы 3 зараз-жа былі заарыштаваны. Назаўтра 17.VIII раніцы адбылолся ў Горадні да 75 вобыскаў у кватэрах рабочых—сяброў Горадзенскіх праф. саюзаў. Заарыштаваны 21 чалавек.

**Крыміналісты працуюць!** Вядомы горадзенскі „Вэлэйша“, Уладзімір Фёдараў, каб магчы правакаваць і беларускае грамадзянства і нават польскую ўладу, падаў, як нас паведамляюць з Горадні, у Міністэрства Унутраных Спраў мэмарыял аб выдачы яму субсыдыі на выданьне газэты ў духу „Грамадзкага Голасу“ і на разьвіцьцё ў Горадні такой дзейнасьці, якую ў Вільні разьвівае „Грамадзянскае Сабраньне“. Але пры гэтым ён падрабіў падпісы шмат якіх дзеячоў з Горадні, каторыя цяпер надта абураны на яго і жадаюць аддачы Фёдарава пад суд.

Відаць, Фёдараў мала йшчэ меў крымінальных спраў у Горадні....

**„Пшэпустковая“ бясьпечнасьць.** Дэлегат Ураду загадаў па ўсіх пагранічных паветах зарэгістраваць усіх, хто тамака стала жыве. Кожнаму жыхару мае быць дадзена **жоўтая** „пшэпустка“, а для начнога руху—**белая** з фатаграфіяй. Купцы ў прыгранічным поясе дзеля руху ўначы павінны мець **зялёную** „пшэпустку“. Калі вёска ці мястэчка мае ў гранічным поясе вадапой ці пашу, дык мусіць выбраць свайго прадстаўніка, які ў часе карыстаньня з гэтае ўласнасьці павінен мець **чырвоную** або **зялёную** „пшэпустку“ (—значыць, ён павінен з кожнай штукай скаціны і з кожнай бабай туды хадзіць?!). Абвесткі аб гэтых правілах будуць зроблены на **белых** табліцах **чырвонымі** літарамі.

Усе гэтыя „пшэпусткі“ выдавацімуць у працягу тыдня, не бяручы ніякае платы. Але за фатаграфіі дык хіба народ сам заплоце?!

**На граніцы.** „Gaz. Warsz.“ наказуе, што нядаўна радавыя пагранічнікі, абстрэліваючы польскую старану, цяжка зранілі аднаго паляка, нейкага Станіслаўскага, які жыве ў Рубежэвічах, калі той разам з паліцыянтам ішоў неўдалёчку ад радавае граніцы. Пасьля таго радавыя пагранічнікі захапілі раненага Станіслаўскага і забралі з сабой, а паліцыянт уцёк.

## Лёс беларускіх вязьняў у Горадні.

(*Ад ўласнага карэспадэнта*).

У ліпні 1922 году было заарыштавана ў Горадзеншчыне да 200 беларусаў нібы за прыналежнасьць да паўстанскай беларускай арганізацыі (102 арт.).

Судова-сьледчая ўлада, разглядаючы высунутыя проці іх палітычнай паліцыяй абвінавачаньні, ў працягу цэлага раду месяцаў звольніла з Горадзенскага вастрогу да 150 асобаў, адных пад невялікі грашавы залог, другіх—бяз жаднага залогу. Рэшта—каля 50 асобаў—сядзяць у Горадзенскім вастрозе да гэтага часу. Мінула ўжо два гады, як сядзяць у турме гэныя няшчасныя людзі, а дагэтуль ніяк справа іх не пападае пад судовую расправу. Каб дабіцца хутчэйшага судовага разгляду, прабавалі яны двойчы галадаваць ў турме, але і гэта не памагло. Ужо трэці год ідзець, а яны ўсё яшчэ мадзеюць у турме. Некаторыя з іх сур'ёзна хварэюць, некалькі асоб памёрлі ад сухотаў. Месяцы тры таму назад памёр Грык Адольф, а нядаўна памёр яшчэ адзін—Венцэсь Антоні. Блізкі да сьмерці Рудзяк Мікалай, цяжка хворы Ушкевіч Эпіфані і Юрканіс Антоні—апошні ляжыць ў шпіталі.

Венцэсь і Рудзяк былі заарыштаваны, маючы: першы—$15^1/_2$ гадоў, другі—16, дык маладыя арганізмы не перанесьлі вастрожнага жыцьця...

Гэткі-ж лёс можа спаткаць і рэшту вязьняў, бо ніадкуль не дастаюць яны дакармляньня. З прычыны недаяданьня надта цяжка падупалі на здароўі — апрача вышэй памянёных — Русялевіч Кароль, трое Апонікаў—Мікалай, Уладзімір і Павал, Мішчук Язэп, Бортнікаў Уладзімір і інш.

Сьледзтва ў справе гэтых вязьняў нібы ўжо скончана і ўсе матэрыялы перададзены пракурору. Але і тут невядома, ці хутка дойдзе ўся справа да суда, бо, як нехта выразіўся, „ня можна іх ні выпусьціць, ні судзіць“. Каб-жа толькі і яны не пайшлі сьледам за Грыкам і Венцэсем!

16 жніўня трое палітычных ізноў аб'явілі галадоўку, як пратэст проці таго, што іх перавялі несправядліва ў „адзіночкі“. N.

### Жыцьцё ў Горадні.

Што можна рабіць у Вільні або ў Наваградку, таго нельга ў Горадні, бо Горадня крыху бліжэй „Кангрэсоўкі“, а значыцца ўважаецца за раён, каторы зусім ужо нібыта дасьпеў, каб прыступіць да паланізацыі яго. Палітычнае працы весьці сярод беларусаў тутака балай што ўжо нельга зусім, апроч дабрачыннае.

